# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 17 (635) ГОД XIII 28 КРАСАВІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.





Як штогод, 1 мая ў прыўзнятым настроі выйдзем на вуліцы і пляцы сустракаць веснавое свята працоўных. З чырванню сцягоў панясем нашы пачуцці, сваю адданасць народнай радзіме, сваю вернасць сацыялізму. Да дэманстрацыі такіх пачуццяў сёлета маем асаблівыя прычыны.

Сёлеташні год у далейшым сацыялістычным развіцці Польшчы мае вельмі важнае значэнне. Пад канец года збярэцца V з'езд партыі. Падвядзе ён вынікі дагэтуляшняга сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне і вызначыць праграму далейшага маршу наперад. Усенародная падтрымка палітыкі партыі пасля сакавіцкіх здарэнняў з'яўляецца найлепшай гарантыяй таго, што ўсялякія спробы розных палітыкантаў, сіяністаў і астаткаў рэакцыі звесці краіну з правільнага сацыялістычнага шляху асуджаны на поўны крах.

Пасля 23 гадоў Народная Польшча пад кіраўніцтвам партыі рабочага класа пераадолела адсталасць, пабудавала сучасную прамысловасць, развіла сельскую гаспадарку. Гэту стваральную палітыку дасканала можна паказаць і на прыкладзе нацыянальных меншасцей. Яшчэ ніколі не было такіх спрыяльных умоў для поўнага развіцця нацыянальных меншасцей, якія стварыла, кіруючыся нацыянальнай палітыкай нашай партыі, народная ўлада.

Не раз мы паказвалі значныя дасягненні Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якія магчымы былі толькі ва ўмовах сацыялістычнай краіны, якая з'яўляецца для нас не мачахай, але сапраўднай маці. І менавіта таму беларускае асяроддзе, як і ўся наша грамадскасць, увесь польскі народ, дабілася высокага і шырокага грамадскага росту. І заданне стаіць: не спыняцца на дасягнутым.

Перспектыва перад намі ясная. Справа толькі ў тым, каб нам яе не засланялі выступаючыя яшчэ дзе-нідзе слабасці і недахопы. Важна таксама мераць здабыткі беларускай меншасці не толькі бэгэкатоўскай працай. Незалежна ад таго, што яшчэ не ўся беларуская інтэлігенцыя ўключаецца да дзейнасці БГКТ, перспектыву ёй стварыла народная ўлада. З беларускага асяроддзя выйшлі інжынеры, прафесары, людзі, якія працуюць на розных, часта вельмі важных, участках нашага грамадскага і гаспадарчага жыцця. І сёння ў вышэйшых навучальных установах вучыцца шмат беларускай моладзі. Значна палепшылася таксама ў Польшчы жыццё беларуса-селяніна. Менавіта таму ацэньваць дасягненні беларускага асяроддзя толькі тым, што мае БГКТ, не можна. Дасягненні і рост Таварыства трэба ацэньваць на аснове росту і дасягненняў усяго беларускага асяроддзя ў Польшчы.

На жаль, у штодзённай нашай працы гэтыя факты наш актыў часта не дагледжвае і гэтым самым завужвае ўсю дзейнасць. А гэтыя факты — важны інструмент уплыву на людзей, пераконвання і працягвання іх да працы ў Таварыстве.

Ацэнкай працы Таварыства не павінен быць растанцаваны ці расспяваны гурток. Партыя ставіць перад намі большыя заданні.




Абмежаваць развіццё мастацкіх гурткоў? Нічога падобнага! Трэба нам іх больш. Але таксама трэба дбаць пра рэпертуар, дбаць пра яго выхаўчы, сацыялістычны змест. Партыя ставіць перад БГКТ не толькі заданні шырокай культурна-асветнай працы, але і ўключэння БГКТ, яго членаў, усяго асяроддзя ва ўсе гаспадарчыя, грамадскія і палітычныя заданні, якія развязвае дадзеная вёска, грамада ці павет.

Актыў Таварыства павінен быць усюды. Гэта яго прысутнасць «усюды» залежыць ад зразумення заданняў, ад клопату актыву пра тое, каб заданні, якія ставіць перад усім народам партыя, былі як найлепш выкананы. А заданні ёсць розныя. Накрэсліваюць іх пленарныя пасяджэнні ЦК ПАРП, дырэктывы і пастановы дзяржаўнай улады. Таму роля Таварыства, заданні Таварыства не зводзяцца толькі да песні ці верша, але да значна шырэйшай дзейнасці.

Другою ўмоваю, якая гарантуе добрыя вынікі бэгэкатоўскай працы, з'яўляецца адпаведнае стварэнне аўтарытэту БГКТ, яго сувязей з мясцовымі партыйнымі інстанцыямі і ўладамі ў развязванні ўсіх пытанняў, якія ўстаюць перад намі. Ад таго, як мы самі адносімся да канкрэтных заданняў, якія стаяць у канкрэтных мясцовасцях, залежаць і адносіны да нас.

Наша партыя галоўнай мэтай сваёй дзейнасці ставіць пабудову сацыялістычнага грамадства — грамадства людзей свабодных ад недастаткаў і ад забабонаў, людзей, якіх лозунгам — прагрэс і сацыяльная справядлівасць. Для дасягнення гэтай мэты патрэбна ёсць як разбудова нашай сацыялістычнай эканомікі, так і сацыялістычнае выхаванне грамадства, а асабліва моладзі.

Гэтым заданням павінна быць падпарадкавана ўся наша выхаваўчая праца. БГКТ з'яўляецца састаўнай часткай польскіх культурных арганізацый. Рэалізуе яна лінію партыі, служыць пабудове сацыялізма ў Польшчы, умацоўванню маральна-палітычнага адзінства нашага народа і нашай дружбы з усім сацыялістычным лагерам і ўсімі прагрэсіўнымі сіламі ў свеце.

Але 1 Май — міжнародны дзень салідарнасці працоўных прыводзіць на думку не толькі святочныя настроі. У той час як мы, працоўныя краін, дзе пануе мір, з задавальненнем выходзім на мірныя вуліцы, на В'етнам падаюць бомбы, у В'етнаме гінуць людзі. Свет з'яўляецца сведкам нябачнага размаху супраціўлення народа В'етнама іншаземнай інтэрвенцыі.

У гэты дзень з пачуццём глыбокага захаплення в'етнамскім народам, мы рашуча заяўляем: — Амерыканцы, прэч з В'етнама! В'етнам — в'етнамцам!

Небяспека для міру ідзе і з іншага боку. Аб гэтым сведчыць агрэсія Ізраіля на арабскія краіны і мілітарысцка-рэвізіяністычная палітыка бонскага ўрада. Таму мы патрабуем адклікання войск ізраільскіх агрэсараў з акупаваных арабскіх земляў. Таму мы гаворым: — Мілітарыстам, рэваншыстам і неанацыстам у ФРГ — НЕ! Мірным сілам у ФРГ — ТАК!

Выказваючы сваё адзінства з палітыкай партыі, уключаючыся ў заданні, якія яна ставіць перад намі, выказваем свой патрыятызм, свае адносіны да Народнай Польшчы, нашай айчыны.

Гэта наш першамайскі лозунг.

# БГКТ

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА

10-га красавіка пасяджэнне прэзідыума ГП адбылося супольна з прэзідыумам гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. На павестцы дня была ацэнка дзейнасці аддзела. Гэтую ацэнку даў сакратар ГП Ул. Юзвюк. Падкрэсліў ён шматгранную працу праўлення і звярнуў увагу адносна недастатковага супрацоўніцтва аддзела з гарадскімі прадпрыемствамі і ўстановамі. Пасля забраў голас старшыня гарадскога аддзела К. Масальскі. Расказаў ён аб тым, чым займалася праўленне і аб тым, што плануе зрабіць да канца першага паўгоддзя, а таксама станоўча выказаўся аб працы штатнага працаўніка аддзела Ю. Хіліманюка, які ўжо амаль упарадкаваў эвідэнцыю, выслаў паведамленні ўсім тым членам, якія маюць залегласці ў аплочванні складчын. Гэта дало добры вынік, таму што ўжо больш 400 асоб аплаціла складчыны за мінулы і гэты год. К. Масальскі гаварыў далей аб цяжкасцях у працы, аб тым, што намаганні стварыць нейкі мастацкі калектыў яшчэ пакуль што не далі задавальняючых вынікаў. Палепшылася прысутнасць на савецкіх фільмах, якія аддзел кожную нядзелю дэманструе для сваіх членаў і сімпатыкаў. Прыходзіць больш-менш у граніцах 70 асоб.

У дыскусіі забралі голас: Г. Валкавыцкі, Л. Бялецкая, М. Лобач, М. Хмялеўскі, Ул. Навіцкі, К. Хлябіч, Ул. Куршэль і Н. Харкевіч. Звярнулі яны ўвагу на вялікую колькасць мерапрыемстваў аддзела, якія не заўсёды прыносяць жаданыя эфекты з прычын арганізацыйнай незабяспечанасці, на неактыўнасць некаторых членаў праўлення гарадскога аддзела, на патрэбу большай дапамогі асноўнага актыву ГП для праўлення аддзела, на дапамогу аддзела Галоўнаму праўленню, на патрэбу хутчэйшага навядзення парадку з бібліятэчнымі кнігамі, якія яшчэ не маюць правільнай «фаховай» эвідэнцыі, на недастатковую колькасць чытачоў бібліятэкі, на пашырэнне чытачоў «Нівы».

### НАРАДА ПРАЎЛЕННЯ АДДЗЕЛА

11-га красавіка пленарнае пасяджэнне гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку абмеркавала прадстаўлены старшынёй праўлення К. Масальскім прапанаваны бюджэт на 1968 год, а таксама план дзейнасці аддзела да канца І-га паўгоддзя. Асноўнай справай у гэтым перыядзе будзе падрыхтоўка да ўрачыстага адзначэння 10-ай гадавіны Беластоцкага аддзела. Шмат часу зойме падрыхтоўка мастацкай часткі. Разыходзіцца пра тое, каб не сцягаць з «тэрэну» аматараў, а самім падрыхтаваць нешта.

Члены праўлення арганізуюць у гэтым годзе адну або дзве дахадовыя забавы і перакажуць грошы на пабудову этнаграфічнага музея БГКТ у Белавежы. На асобае падкрэсленне заслугоўвае выступленне Ганны Амброжэй, якая гаварыла аб недахопах у аддзеле канкрэтных заданняў для членаў праўлення і для членаў БГКТ.

### НА ПАБУДОВУ МУЗЕЯ

Як мы ўжо паінфармавалі, этнаграфічны музей БГКТ у Белавежы знаходзіцца ў будынку, які не толькі не адпавядае вымогам музея, але ўжо не змяшчае экспанатаў. Некаторыя экспанаты зложаны на гары гэтага будынка.

Прэзідыум ГП пастанавіла пабудаваць новае памяшканне для музея. У гэтым напрамку зроблена ўжо шмат. Але неабходная тут дапамога грамадскасці.

З першым прыкладам пераказання грашовых сум на «конта» Грамадскага камітэта пабудовы музея выступілі партыйная арганізацыя пры Галоўным праўленні БГКТ і рада закладовая ГП. Арганізуюць яны па адной дахадовай забаве і даход з яе перакажуць на пабудову музея. (мх)

**Усіх нашых актывістаў, членаў і сімпатыкаў сардэчна віншуем з Міжнародным святам працоўных 1 Мая! Жадаем ім далейшых поспехаў у прафесіянальнай і грамадскай працы, а таксама шчасця ў асабістым жыцці.**

**ГП БГКТ**

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

## ДЖОНСАН АДЦЯГВАЕ

Амаль што адразу пасля салодкіх слоў Джонсана, што ён згодны на мірныя перагаворы з ДРВ і што можа сустрэцца з прадстаўнікамі ДРВ у кожным горадзе свету, пачаліся амерыканскія камбінацыі (аб чым мы зрэшты пісалі ў папярэднім нумары «Нівы»). Дагэтуль усе мясцовасці, якія прапануюць нейтралістычныя кругі, не знайшлі адабрэння ў вачах амерыканскай дыпламатыі. Гэта ясна сведчыць аб тым, што прапанова Джонсана аб перагаворах гэта чыстая гульня, якая мае на мэце працягванне вайны пры адначасовым мірным жэсце амерыканскай адміністрацыі.

Ілжывымі аказаліся дэкларацыі Джонсана аб агранічэнні налётаў на ДРВ. Факты сведчаць аб тым, што амерыканскія самалёты працягваюць свае рэйды на некалькі соцен кіламетраў углыб ДРВ. У мінулым тыдні была аб'яўлена трывога нават у сталіцы ДРВ, Ханой.

Адначасова ЗША паднялі вялікую ваенную аперацыю ў Паўднёвым В'етнаме. Усё гэта сведчыць аб тым, што амерыканскія стратэгі хочуць за ўсялякую цану выказацца новымі мілітарнымі дасягненнямі яшчэ перад перагаворамі.

## ЛІКІ КПСС

Лікавы склад Камуністычнай партыі Савецкага Саюза павялічыўся на працягу аднаго года на 496.092 чалавекі. 1 студзеня 1968 г. КПСС налічвае 13.180.225 чалавек, у тым ліку 12.484.836 членаў і 695.389 кандыдатаў партыі. У 1967 г. прынята ў рады КПСС 668.697 кандыдатаў г. зн. на 157,7 тысячы больш чым у 1966 г. Рады партыі павялічыліся ў асноўным дзякуючы таму, што ўступаюць сюды перадавыя рабочыя і калгаснікі.

## ЗАГАВОР, АЛЕ ДЗЕ ЗАБОЙЦА?

Пакуль што прыціхлі масавыя дэманстрацыі неграў, выкліканыя забойствам з-за вугла пастора Кінга. Але ў ЗША пануе перакананне, што гэта «цішыня перад бурай».

Каб супакоіць грамадскую думку, Федэральнае разведачнае Бюро апублікавала звестку аб тым, што выкрыта спісак, які меў на мэце забойства Кінга. Арыштавана нейкага падазронага, якому ўлады робяць закід сарганізавання загавору. Аднак не закідаюць яму забойства. Камюніке сцвярджае толькі, што загаворшчыкі думалі згладзіць правадыра неграў ужо ў сакавіку.

Ці «таямніца следства» мае служыць зноў прыкрыццю кулісаў палітычнага забойства?

## НОВЫЯ ДАСЯГНЕННІ

У СССР праведзена новы ўдачны касмічны эксперымент: два штучныя спутнікі тыпу «Космас» аўтаматычна спалучыліся на арбіце, а потым на загад з зямлі зноў разышліся і ўвайшлі на розныя арбіты. Абодва спутнікі вярнуліся на Зямлю. Сусветная прэса сцвярджае, што гэта з'яўляецца яшчэ адным доказам, што Савецкі Саюз утрымлівае перавагу над Злучанымі Штатамі ў галіне касмічных доследаў.

А.К.

# БССР

## ШВЕЙЦАРЫЯ

З двухдзённым візітам у Мінску знаходзіўся надзвычайны і паўнамоцны пасол Швейцарыі ў СССР **А. Р. Ліндт.** Пасол нанёс візіт намесніку Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР **І. Клімаву** і міністру замежных спраў БССР **А. Гурыновічу.**

Высокі госць прысутнічаў на спектаклі **«Людзі на балоце»** ў Беларускім дзяржаўным ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічным тэатры **імя Янкі Купалы.**

## СЕМІНАР

У Мінску адбыўся пяцідзённы семінар работнікаў кніжных выдавецтваў рэспублікі. З дакладам выступіў **Р. Канавалаў,** старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку.

На семінары таксама былі разгледжаны пытанні аб узмацненні арганізатарскай ролі выдавецтваў, аб паляпшэнні рэдагавання грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай літаратуры, аб шляхах зніжэння сабекошту друкаванай прадукцыі і павышэння рэнтабельнасці выдавецтваў, аб паляпшэнні выкарыстання паліграфічных магутнасцей і т.д.

У семінары прыняў удзел і выступіў з прамовай сакратар ЦК Кампартыі Беларусі **С. Пілатовіч.**

## ТЭЛЕФІЛЬМ

Вядомая кніжка **Івана Шамякіна «Трывожнае шчасце»** экранізавана ў аднайменным беларускім тэлефільме. У сувязі з гэтай падзеяй у беларускім культурным жыцці вядомы крытык **Ул. Няфёд** піша на старонках **«Звязды»:**

**«У тэлефільме «Трывожнае шчасце» здымаліся акцёры беларускіх тэатраў. І гэта прынцыпова важна. Наша тэлестудыя яшчэ раз, пасля ў цэлым удалых пастановак «Людзі на балоце» і «Крах», даказала, што з творчымі нацыянальнымі кадрамі можна ствараць значныя творы, якія патрэбны не толькі беларускаму гледачу. Аб гэтым сведчаць і тыя сотні водгукаў аб фільме, што прыйшлі на студыю з усіх канцоў краіны».**

## БЕЛАРУСІ

Навукова-даследчы інстытут педагогікі Міністэрства асветы БССР завяршыў фундаментальную працу **«Нарысы гісторыі развіцця народнай асветы і педагагічнай думкі Беларусі».** Праца ахоплівае перыяд дзесяці з палавінай стагоддзяў, выкарыстаны ў ёй рэдкія ілюстрацыі.

## ІНІЦЫЯТЫВАЙ

Камсамольская **«Чырвоная змена»** выступіла з чарговай цікавай ініцыятывай. Тым разам датычыць вясковай інтэлігенцыі, паказу яе жыцця і спраў. — **«Тваё прызванне, сельскі інтэлігент. Як жыве і працуе сельскі інтэлігент, які яго ўдзел у грамадскім жыцці вёскі»** — пад такім агульным загалоўкам змешчана выказванні вясковай інтэлігенцыі Нясвіжскага раёна.

«Чырвоная змена» публікуе дзесяць пытанняў да Чытачоў і намерана друкаваць адказы на іх.

(С.Я.)

# ПОЛЬШЧА

## ДРУЖБА І СУПРАЦОЎНІЦТВА

У цэлай краіне ўрачыста адзначалася 23 гадавіна падпісання Дагавору аб дружбе, узаемнай дапамозе і супрацоўніцтве між Польскай Народнай Рэспублікай і СССР. Гэты Дагавор апраўдала жыццё. Варта тады прыпомніць, што тры гады таму назад дагавор з 1945 года быў урачыста прадоўжаны на наступныя дваццаць год. Мае ён для нашай краіны гістарычнае значэнне. Перш за ўсё абгрунтаваў новае, многа лепшае ад даваеннага, становішча нашай дзяржавы ў свеце. Даваенныя дагаворы Польшчы з Англіяй і Францыяй мелі — гэта паказала гісторыя — толькі папяровую вартасць. Як адзначыў намеснік старшыні Рады Міністраў Пётр Ярашэвіч у інтэрв'ю для агенцтва ПАП, Савецкі Саюз з'яўляецца для Польшчы асноўным партнёрам у замежным гандлі. Звыш 35 працэнтаў польскага замежнага гандлю ідзе на савецкі рынак. Адначасова Польшча займае трэцяе месца ў гандлёвых замежных кантактах Савецкага Саюза.

## ЛЕНІНСКІЯ ДНІ

98 год таму назад 22 красавіка 1870 года нарадзіўся Уладзімір Ільіч Ленін. Яго імя сталася сімвалам новай эпохі — эпохі перамогі сацыялізма. Таму кожны год у нашай краіне ўрачыста адзначаюцца «Ленінскія дні». 20 красавіка г.г. з нагоды 98 гадавіны нараджэння вялікага Леніна і 23 гадавіны падпісання Дагавору адбыўся ў Варшаве ўрачысты канцэрт, а 21 красавіка прадстаўнікі насельніцтва Кракаўскага ваяводства сабраліся ў Пароніне на вялікі мітынг. Прыпомнім, што ў Пароніне ў 1913/14 гадах жыў і дзейнічаў Ул. І. Ленін. Шахцёры вугальнай шахты імя Леніна ўстанавілі ў сваёй шахце памятнік правадыру Кастрычніцкай рэвалюцыі.

## ПАМЯЦІ ВАРШАЎСКІМ ЯЎРЭЯМ

18 красавіка з нагоды 25 гадавіны ўзброенага паўстання ў Варшаўскім гета адбыліся ў Варшаве ўрачыстасці прысвечаныя памяці загінуўшых у няроўнай барацьбе з гітлераўцамі. Ля памятніка Героям Варшаўскага гета пакладзена вянкі і кветкі, а Галоўнае праўленне Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю наладзіла ў Кангрэсовай зале вялікае ўрачыстае пасяджэнне. З прамовай выступіў генеральны сакратар ГП ЗБоВіД К. Русінэк.

## ПЛЕНУМ ГП ЗМС

19 красавіка адбылося ў Варшаве Пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Саюза сацыялістычнай моладзі. Разглядала яно актуальныя ідэйна-палітычныя праблемы ў дзейнасці ЗМС, асабліва ў сувязі з сакавіцкімі варшаўскімі здарэннямі.

## ДЗЕНЬ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКА

Цэнтральныя ўрачыстасці з нагоды Дня тэкстыльшчыка адбыліся ў горадзе Лодзі. Прыняў у іх удзел старшыня Рады Міністраў, прэм'ер-міністр Юзэф Цыранкевіч, які таксама наведаў некаторыя тэкстыльныя фабрыкі ў Лодзі, дзе пазнаёміўся з прадукцыяй і правадзіў непасрэдныя гутаркі з рабочымі.

# ВАЯВОДСТВА

## МІТЫНГ У БЕЛАСТОКУ

17 красавіка адбыўся ў Беластоку шматтысячны мітынг. На плошчы ля беластоцкай Медыцынскай Акадэміі сабраліся прадстаўнікі маладзёжных арганізацый, студэнты, вучні, дэлегацыі ад фабрычных калектываў, грамадска-палітычных арганізацый і ўстаноў. У мітынгу м. ін. прынялі ўдзел намеснік міністра абароны генерал Юзэф Урбановіч і І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку А. Лашэвіч. Абодва яны выступалі з прамовамі. Эстафеты, якія прыехалі з Сакольскага, Гайнаўскага, Бельскага, Лапскага і Высокамазавецкага паветаў прывязлі заявы аб каштоўных абавязацельствах у гонар V з'езда ПАРП, Першамая і 25 гадавіны Войска Польскага. На заканчэнне мітынгу адбылося ўрачыстае развітанне з маладзёжна-ваеннай эстафетай, якая ў той жа дзень паехала з Беластока баявым шляхам Савецкай Арміі і Войска Польскага. Шлях гэты вядзе праз паўночныя раёны нашай краіны. На беластоцкі мітынг прыехала дэлегацыя Гродненскай вобласці, якую ўзначальваў палкоўнік Мікалай Пруднікаў. Ён сардэчна прывітаў прысутных на мітынгу ад імя грамадскасці Гродзеншчыны.

## «ВЯСНА ЧЫНУ»

Саюз вясковай моладзі супольна з рэдакцыяй «Тэлевізійнага дзённіка» другую палавіну красавіка аб'явілі «Вясной чыну». Заклік масава падтрымалі арганізацыі ЗМВ Беластоцкага ваяводства. Кожны дзень Ваяводскае праўленне ЗМВ атрымоўвае паведамленні аб каштоўных абавязацельствах у гонар V з'езда ПАРП і Першамая. Няма, на жаль, магчымасці, каб у рамках гэтай рубрыкі хаця б назваць усе вясковыя гурткі ЗМВ, якія ўжо прыступілі да акцыі «Вясна чыну». Да гэтай справы незадоўга мы яшчэ вернемся на старонках «Нівы». Зараз для прыкладу падаем, што абавязацельства гуртка ЗМВ з ПГР у Валілах ацэньваюць на 26 тысяч злотых, а абавязацельства гуртка ЗМВ са спулдзельні прадукцыйнай у Зубрах — на 28 тыс. зл.

## РАСТУЦЬ РАДЫ ПАРП

Толькі на працягу месяца красавіка рады Польскай аб'яднанай рабочай партыі Беластоцкага ваяводства павялічыліся на блізка 400 кандыдатаў. Сярод новапрынятых найбольш рабочых і сялян. У партыю ўступаюць таксама маладыя вучоныя і студэнты. Такім чынам выяўляюць яны сваю прывязанасць да партыі і яе кіраўніцтва.

## БЕЛАСТОЦКІ ЭКСПАРТ

Экспартнай прадукцыяй займаецца на Беласточчыне каля 100 прадпрыемстваў, якія ў мінулым годзе выслалі на замежныя рынкі свае вырабы на суму ў І мільярд 750 мільёнаў зл. Праблемы экспартнай прадукцыі абмеркавалі нядаўна ўдзельнікі нарады, якая адбылася ў Ваяводскім камітэце ПАРП.

## З ДЫМАМ

Ад 1 студзеня да 12 красавіка г.г. у Беластоцкім ваяводстве здарылася 218 пажараў. З дымам пайшло рознага дабра на суму ў амаль 6 мільёнаў злотых — каля паўтара мільёна больш, як у І-м квартале мінулага года.

(вр)




**NIEDZIELA, 28.IV.**

8.25 Program dnia. 8.30 ,,Miccheta — zamierzchła stolica gruzińskiej ziemi'' (,,Pamiątki architektury'' (Tbilisi). 9.00 TV Kurs Rolniczy: ,,Zbiór zbóż kombajnami''. 9.35 ,,Przypominamy, radzimy'' 9.45 ,,Niedzielna Orkiestra dęta'' — film SCRS. 10.20 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa'' (Lipsk). 11.00 Sprawozdanie sportowe. 12.00 Dziennik. 12.10 ,,Dyliżans paryski'' — film (,,Przygody trzech muszkieterów''). 12.35 ,,W starym kinie''. 13.35 ,,Sezam muzyczny''. 14.20 ,,Przemiany''. 14.50 Dla dzieci: ,,W krainie fantazji''. 15.20 ,,W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników''. 15.35 Sprawozdanie sportowe. ok. 15.45 PKF. 16.45 ,,Ludzie i zdarzenia''. 17.00 Teatr TV na świecie: ,,Pamiętnik wariata'' wg M. Gogola (ZSRR). 18.05 ,,Sonda'' — teleturniej. 18.55 Felieton literacki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Małżeństwo doskonałe'' — filmowy program rozrywkowy. 20.50 ,,Porto Negro'' — film fab. fr. 22.20 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 29.IV.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.30 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś''. 17.15 Dla młodych widzów: ,,Dwa kółka'' (cz. II). 17.40 Magazyn Postępu Technicznego. 18.10 ,,Spacerkiem po kinach''. 18.40 ,,Symfonia dla samotnego człowieka'' — film franc. 18.55 ,,Kolektyw nowoczesności''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Czwarta zmiana''. 20.30 Teatr TV: Z. Stolarek — ,,Sygnet, pieśń o wierności'' — dramat poetycki. 21.45 ,,Listy do matki'' — rep. dok. 22.10 Dziennik.

**WTOREK, 30.IV.**

10.00 Dla szkół: (kl. I) ,,Wszyscy dla wszystkich''. 10.15 ,,Barwy walki'' — film fab. pol. 11.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — J. Anouilh ,,Skowronek''. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: ,,Zwalczanie chorób i szkodników roślin okopowych''. 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Fizyka na piątkę''. 17.30 ,,Suita polska'' — film. 17.50 ,,Sztafeta nowości''. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 ,,Przegląd muzyczny''. 19.05 ,,Wieczorne rozmowy''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Górale przy kowadle''. 20.35 ,,Folklor żywy'' — film TVP. 21.15 ,,Barwy walki'' — film fab. pol. 22.45 Dziennik.

**SRODA, 1.V.**

7.35 Program dnia. 7.45 Międzynarodowy Reportaż Pierwszomajowy. 13.00 Występ Zespołu Pieśni i Tańca ,,Śląsk''. 13.45 ,,Robotnicza przygoda'' — rep. film. z Turoszowa. 14.00 ,,W leningradzkim cyrku'' — film radz. 14.45 Dla dzieci: Z. Smandzik — ,,Oj dana, dana, wzięli diabli pana'' — widowisko Państw. Teatru Lalek ,,Ateneum'' w Katowicach. 15.45 Wszechnica TV: ,,Tradycje rewolucyjne polskiej sztuki''. 16.15 Estrada Literacka. 16.50 ,,Światowid''. 17.30 Sprawozdanie sportowe. w przerwie ok. 18.15 PKF. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 ,,Kiedy znów zakwitną'' (,,Tele-Variete''). 21.10 ,,Złodziej samochodów'' — film fab. radz. 22.40 Wiadomości sportowe.

**CZWARTEK, 2.V.**

12.45 Dla szkół: (kl. X) Język polski — ,,Cyprian Norwid''. 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.25 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 18.05 ,,Bryza''. 18.30 ,,Z kamerą po świecie''. 18.45 ,,O Chopinie''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Trybuna Telewizyjna. 20.35 Teatr KOBRA: V. Canning — ,,Proszę, niech pan wejdzie''. 21.35 Magazyn Medyczny. 22.05 Dziennik.

**PIĄTEK, 3.V.**

10.00 ,,Destry znowu w siodle'' — film fabularny USA. 11.20 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.45 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.15 ,,Od Leningradu do Rostowa'' — film TV radz. 17.45 ,,Kiedy trzeba podjąć decyzję''. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 ,,Dialogi historyczne''. 19.00 ,,Anegdoty teatralne'' — opowiada Igor Śmiałowski. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Prawdy Polaków''. 20.35 Teatr TV: T. Rittner — ,,Don Juan''. 21.45 ,,10 minut recenzji''. 21.55 Reportaż filmowy. 22.25 Dziennik.

**SOBOTA, 4.V.**

9.30 ,,Czas miłości'' — film fab. rum. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) ,,Nauka o człowieku'' — ,,Jesteś chłopcem''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — ,,Pojezierze Mazurskie''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy: ,,Zbiór siana w gospodarstwach drobnotowarowych''. 16.20 ,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''. 16.30 Program tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: ,,Kucharz doskonały'' — turniej szkół zawodowych. 18.05 ,,Bagnolo — wieś między czerwonym a czarnym'' — film dokument. wł. 19.05 ,,Wieczorne rozmowy''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 ,,Pegaz''. 20.55 ,,Gwiazdy dwóch ekranów'' — program rozrywkowy. 21.45 Dziennik. 22.00 Wiadomości sportowe. 22.10 ,,Tragiczne polowanie'' — film fab. brazyl.




**Piątek, 26 kwietnia**

8.05 Dziennik. 8.15 Film animowany dla przedszkolaków. 8.30 ,,Kłos''. 9.00 ,,Pochmurny ranek''. Film. 15.00 Nowiny. 15.10 Program dnia. 15.15 Dla was, młodzi technicy. 15.25 Zdrowie. 15.55 Etapy wielkiej drogi. 16.10 Film animowany dla dzieci. 16.20 Program dla rolników. 16.45 Jednostka i państwo. 17.15 Klub filmowy. 18.15 Kartki kalendarza muzycznego. 18.30 Sztafeta Nowin. 19.30 Teatry republiki. 20.40 ,,5+2''. 21.15 Na dobranoc.

**Sobota, 27 kwietnia**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dla studentów. 10.00 ,,Rycerz bez zbroi''. Film. 11.30 Kalendarz TV. 11.40 Przegląd sportowy. 12.10 Szkatułka muzyczna. 12.30 Publicystyka społeczna. 13.00 Teatr TV dla dzieci. 14.30 Z historii fabryk. 15.05 Kwartet smyczkowy. 15.40 Dzień jutrzejszy naszej republiki. 16.00 Płomyk. 17.10 Marksizm - leninizm a dzisiejszy światowy ruch rewolucyjny. 17.30 Wieczór twórczy kompozytora W. Muradeli. 20.00 ,,Niedźwiedź''. Film.

**Niedziela, 28 kwietnia**

6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Budzik. 7.45 Dziennik. 8.00 K. Marks w walce o jedność międzynarodowego ruchu robotniczego. 8.30 Koncert orkiestry instrumentów ludowych. 9.00 Klub TV. 10.00 Dla dzieci o piłce nożnej. 10.20 Dla dzieci. 11.00 Dla uczniów o szachach. 11.25 Przegląd TV. 12.15 Dla żołnierzy. 13.00 ,,Teraz niech idzie''. Film. I i II serie. 15.00 Piłka nożna. ,,Dynamo'' (Mińsk) — CSKA. 16.45 Odpowiedzi na pytania. 17.00 I. Popow. ,,Rodzina''. Spektakl teatralny. 19.00 Siedem dni. 19.45 Artysta ludowy ZSRR J. Cikocki. 21.00 Tylko fakty.

**У тэатры Аляксандра Вянгеркі**




Гэтую вядомую трагедыю Шэкспіра аб каханні і смерці паставіў беластоцкі тэатр. Пастаноўка адзначала свята тэатра, якое выпадае на пераломе сакавіка і красавіка. Свята тэатра ў гэтым годзе прайшло на Беласточчыне вельмі плённа. Можна было заўважыць велізарнае заангажаванне рабочага асяроддзя ў тэатральных спектаклях, якія спецыяльна былі для рабочых заводаў «Фасты», Сяржана і інш. Дырэктар **Браніслаў Орліч** ідзе на вялікае і як найшырэйшае збліжэнне тэатра да людзей усіх слаёў грамадства. Рэпертуар таксама дастасоўваецца да гэтага. Пастаноўка Рамэа і Джульеты кіруе нашу ўвагу на вернасць і чулліваць у адносінах паміж людзьмі розных палоў, вернасць, якая штопраўда цаной смерці, але мірыць адвечныя варожыя роды: Мантэкіх і Капулецікх.

У пастаноўцы Рамэа і Джульеты застасавана частыя змены сцэн пры дапамозе рухомай сцэны беластоцкага тэатра.

У шматлікіх сцэнах барацьбы на шаблі прынялі ўдзел жаўнеры з Падляшскай часці ВОВ.

Здымка, якую даем, прадстаўляе сцэну ў манастыры. **Генрык Длужынскі**, як брат Лаўрэнцій, благаслаўляе Рамэа **(Мечыслаў Банасік)** перад яго выездам на выгнанне за забойства, да якога быў справакаваны. Постаць брата Лаўрэнція ў выкананні **Генрыка Длужынскага** належыць да самых моцных і сімпатычных постацей у беластоцкім спектаклі.

Рэжысерыя **Браніслаў Орліч.**

Сцэнічнае афармленне **Станіслаў Банкоўскі.**

Сцэны музычныя апрацаваны на падкладзе музыкі **Тадэуша Вэрда.** (вл)



**Да** найлепшых сельскагаспадарчых гурткоў у Дуброўскім павеце залічваецца сельгасгурток у Новым Дворы. Гурток мае 9-ць трактарных камплектаў, пабудаваў гаражы на машыны, мае кавальска-слёсарскі пункт, апрацоўвае 48 га зямлі з Дзяржаўнага фонду і дабіўся значна вышэйшых ураджаяў у параўнанні да гаспадароў неаб'яднаных у гэтай арганізацыі.

У гуртку на асобнае падкрэсленне заслугоўваюць трактарысты. Усе гэтыя людзі добра ведаюць свой «фах», шануюць машыны, стараюцца, каб усе дзевяць трактараў працавалі без пераcтояў. А калі нешта сапсуецца, часта самі ў сваёй гуртко̆ўскай кузні патрапяць наладзіць няспраўнасць машыны. Трактарысты з Новага Двара навучыліся працаваць і на вузкіх палосках.

# Прачытай, падумай, выбяры!

Сёння друкуем адрасы стацыянарных тэхнікумаў Беластоцкага ваяводства. Да прафесіянальных тэхнікумаў прымаецца кандыдатаў ва ўзросце 15—17 год. Кандыдатаў абавязвае экзамен пісьмовы і вусны па польскай мове і матэматыцы і дадаткова — залежна ад спецыяльнасці — з фізікі, хіміі, геаграфіі або адручных рысункаў. Навука ў агародніцкіх тэхнікумах і тэхнікумах сельскагаспадарчай рахунковасці працягваецца 4 гады, а ў апошніх — 5 год.

TECHNIKA ZAWODOWE

**Białowieża,** pow. Hajnówka, **Technikum Leśne** — internat, (gospodarka leśna).

**Białystok, ul. M. Nowotki 1, Technikum Budowlane CZSP,** — internat (dokumentacja budowlana); **ul. Słonimska 47 Technikum Budowlano-Drogowe** — internat (dokumentacja budowlana); **ul. Lipowa 41 d, Technikum Geodezyjne,** (geodezja, drogi i mosty kołowe); **ul. A. Grottgera 9, Technikum Elektryczne** (elektronika, elektroenergetyka, radiotechnika i telewizja, elektromechanika ogolna); **ul. W. Broniewskiego 14, Technikum Mechaniczne** — internat (obróbka skrawaniem, budowa maszyn, naprawa i eksploatacja pojazdów samochodowych); **ul. A. Mickiewicza 43, Technikum Włókiennicze,** — internat (przędzalnictwo zgrzebne, tkactwo, chemiczna obróbka włókien); **ul. Sz. Żółtkowska 28, Technikum Mleczarskie** — internat (przetwórstwo mleczarskie, analiza techniczna w przemyśle spożywczym); **ul. Sz. Żółtkowska 39, Technikum Przemysłu Mięsnego,** (przetwórstwo mięsne, piekarstwo); **ul. Warszawska 63, Liceum Ekonomiczne** — internat, (ekonomika i organizacja przedsiębiorstw handlowych, ekonomika i organizacja przedsiębiorstw przemysłowych, ekonomika i organizacja transportu samochodowego, finanse i rachunkowość, eksploatacja pocztowo-telekomunikacyjna); **ul. 1-go Maja 11/4, Technikum Gastronomiczne** — internat (żywienie zbiorowe); **ul. 1-go Maja 11/4, Technikum Chemiczne** — internat, (pralnictwo i farbiarstwo);

**Białystok — Antoniuk Fabryczny 1, Technikum Melioracji wodnych,** — internat (melioracje wodne);

**Białystok — Dojlidy, ul. Fabryczna 26, Technikum Rolnicze** — internat (uprawa roślin i hodowla zwierząt w gospodarstwach rolnych).

**Bielsk-Podlaski, ul. Widowska 3, Liceum Ekonomiczne** — internat (ekonomika i organizacja przedsiębiorstw handlowych, organizacja i technika prac administracyjnych, finanse i rachunkowości; **ul. Holowieska 18, Technikum Rachunkowości Rolnej** — internat, (ekonomika i rachunkowość gospodarstw rolnych).

**Czartajew, pow i st. kol. Siemiatycze, Technikum Rolnicze** — internat, (uprawa roślin i hodowla zwierząt w gospodarstwach rolnych).

**Hajnówka, ul. 1-go Maja 17/19, Technikum Przemysłu Drzewnego** — internat, (tartacznictwo i wyroby drzewne).

**Różanystok, pow. Dąbrowa Białostocka, Technikum Rolnicze** — internat (uprawa roślin i hodowla zwierząt w gospodarstwach rolnych).

**Supraśl, St. Konarskiego 4, pow. Białystok, Technikum Mechanizacji Rolnictwa** — internat (mechanizacja rolnictwa). (A.K.)

# ТРАКТАРЫСТЫ

Смела і з добрымі вынікамі ўводзяць трактары на цераспалосіцу.

У мінулым годзе выпала ім на адзін трактар па 1148 гадзін працы. Дасягненне гэтае надзвычай высокае, калі зважыць тое, што сярэдняя павятовая акрэсліваецца лікам 670 гадзін.

Сярод успомненых трактарыстаў выдзяляецца ў сваёй працы Антон Банецкі (на здымку), які ў ваяводскім конкурсе на найлепшае аранне заняў другое месца. Будзе ён незадоўга ўдзельнічаць у агульнапольскім конкурсе трактарыстаў.

Тэкст і фота: М. Хмялеўскі



# Парадня для моладзі

Бурнасць грамадскага жыцця прыносіць вялікія карысці, але каб магчыма добра арыентавацца ва ўсіх справах, неабходныя веды правілаў, якія кіруюць гэтым жыццём. Часта аднак здараецца, што маладыя людзі, а перш за ўсё моладзь вёскі не арыентуюцца, як справіцца з пэўнымі справамі, з якімі сустрэліся ў грамадскім жыцці.

Вельмі часта маладыя людзі на вёсцы не арыентуюцца, як, напрыклад, паступаць у справах аліментацыйных. Не рэдка здараюцца вельмі цяжкія справы, калі, напрыклад, малады чалавек працуе ў кагосьці (наймаецца) без падпісання ўмовы і потым паўстае непаразуменне з тым, хто яго наймаў, аб зарплату. Урэшце сустракаюцца справы, калі моладзь ці гурток ЗМВ збіралі грошы, напрыклад, на святліцу, а скарбнік выехаў недзе, а з імі і прапалі грошы.

Каб прыйсці з дапамогай моладзі **Павятовае праўленне ЗМВ у Сямяцічах** пастанавіла стварыць грамадска-праўную парадню. У яе склад уваходзіць лекар, 5 праўнікаў (пракуроры і адвакаты) і прадстаўнік аддзела ральніцтва ПРН. Гэтыя людзі будуць раіць маладым людзям ва ўсіх справах. Зрэшты, не толькі будуць раіць, але калі зойдзе патрэба будуць уносіць пэўныя справы ў суд і потым іх бараніць.

У парадні маладыя людзі змогуць даведацца, як, напрыклад, і ў якім выпадку могуць пераняць на сябе гаспадаркі сваіх бацькоў. А. К.

# Сустрэча з інспектарам

Лекара **Люцыяна Рачкоўскага,** які працуе Гайнаўскім павятовым інспектарам па справах педыятрыі, напаткаў я падчас візітацыі вясковых пунктаў здароўя.

— Справы аховы здароўя ў нашым павеце выглядаюць нават вельмі добрэ ў параўнанні да мінулых часоў, — гаварыў лек. **Л. Рачкоўскі.** — На Гайнаўшчыне ўжо зусім зваявалі мы такую страшную хваробу, як дыфтэрыт. Хвароба коклюшу выступае вельмі рэдка. Паказчык памiральнасці нованароджаных дзяцей паменшаў да 38 на 1.000 нованароджаных. Праўда, гэта далёка да еўрапейскіх паказчыкаў, тым не менш маем магчымасці змагацца за ўсё лепшыя вынікі. Цяпер толькі каля 5% жанчын родзіць у сябе, у хаце. Пераважна, раптоўныя роды, калі ўжо запозна ехаць у бальніцу.

Чакае нас вялікі кавалак работы адносна паляпшэння гігіены вясковага жыцця, што з'яўляецца асновай здароўя. Гаворачы аб гігіене трэба мець на ўвазе перш за ўсё такія падставовыя справы, як будова глыбокіх калодзежаў — і ў адпаведнай адлегласці ад усялякіх хлявоў ды іншых крыніц бруду. Калодзежы непакрытыя, залятае пыл, падае лісце і т.п.

Дзяцей не прызвычайваем чысціць штодзень зубы і мыць твар, шыю, рукі.

— Нягледзячы на шматлікія недахопы, з якімі яшчэ доўга будзем мець турботы, хачу сказаць, што гайнаўская вёска добра разумее сэнс і патрэбу гігіены. І гэта яшчэ адна наша зарука, што з гігіенай на Гайнаўшчыне будзе ўсё лепш, — гаварыў інспектар. (ся)

# У ГРН Ружаны Сток

Ружаны Сток славіцца сельскагаспадарчым тэхнікумам і прыгажосцю сваёй мясцовасці. А грамада Ружаны Сток вядомая ў Дуброўскім павеце тым, што тут найлепш развіваецца жывёлагадоўля. (мх)

# КОНКУРС НА СЫРАДЭЛЮ

Сырадэля — расліна не вельмі патрабавальная. Расце амаль на кожным грунце, а яе кармавыя якасці даволі высокія. Таму сельскагаспадарчыя ўлады Беластоцкага ваяводства рашылі заахвоціць сялян да сеяння сырадэлі на кожнай палосцы жыта. Разыходзілася пра тое, каб да азімага жыта на вясну засеяць яшчэ сырадэлю. Жытняя салома з сырадэляй дасканала надаецца на сечку, якую ахвотна ядуць і каровы, і коні.

Найбольш ахвотных — 112 вёсак — прыступіла да конкурсу ў Дуброўскім павеце. Там звыш 60 працэнтаў плошчы жыта было дасеяна сырадэляй. Гэта забяспечыла Дуброўскаму павету першае месца ў ваяводстве і ў краіне.

Сырадэля з'яўляецца ратункам для гаспадароў на ўсходне-паўднёвых паветах Беласточчыны, асабліва ў гэтых раёнах тых паветаў, дзе слабая зямля і мала сенажаці. Сырадэлю можна сеяць таксама, як паплён. (вр)

# З АДНОЙ ГЛЕБЫ

Выйшла з друку цікавая праца Бэнона Дымка пад загалоўкам «Генезіс Незалежнай сялянскай партыі»*. Гэта частка яго доктарскай працы, якая можа чытачоў «Нівы», якія цікавяцца гісторыяй, зацікавіць з некалькіх прычын. НПХ таксама як Грамада ўтварылася на адной і той жа глебе, дзейнічала ў тых самых умовах, не раз выступала ў супольных масавых акцыях, м. ін., у Беластоцкім ваяводстве. Кіраўнікі абедзвюх партый былі з сабою злучаны вузамі супольнай грамадскай дзейнасці, а часта таксама і асабістай дружбы. НПХ і Грамада былі аб'яўлены па-за законам на падставе аднаго цыркуляра (у сакавіку 1927 г.). Пасол у сейм Фелікс Галавач, выдатны дзеяч НПХ, быў арыштаваны супольна з кіраўнікамі Грамады.

На працягу некалькігадовых навуковых пошукаў аўтар дайшоў да вываду, што калыскай НПХ (таксама як Грамады) была Віленшчына і таму, падымаючы тэму яе генезісу, звяртае ўвагу чытача на грамадска-палітычныя адносіны на тэрыторыі т.зв. паўночна-ўсходніх «крэсаў» Польскай Рэчыпаспалітай у міжваенны перыяд. У гэтай галіне на асаблівую ўвагу заслугоўвае некалькі момантаў дагэтуль мала вядомых і мала даследваных. Рэч ідзе пра характарыстыку і ролю крэсавай адміністрацыі, пра спецыфічныя рысы тамашніх аграрных адносін і дзейнасць польскіх партый на гэтай тэрыторыі ў 1919—1923 гадах. І хаця аграрныя адносіны аўтар апрацоўвае вельмі коратка, аднак са знаёмствам справы. Паказаў не толькі найбольш важнейшыя супярэчнасці паміж сялянамі і памешчыкамі, але таксама залежнасць сялян ад памешчыкаў у рознай постаці; паказаў спецыфіку сялянскай гаспадаркі на тамашняй тэрыторыі і паказаў на розныя беды і клопаты мясцовых сялян, якія (беды) паходзяць ад астаткаў паўфеадальных адносін, ад змен у аграрных адносінах, якія тут адбыліся ў час I сусветнай вайны, ад ваенных знішчэнняў, а таксама ад спецыяльнай на гэтай тэрыторыі палітыкі дзяржавы. Аўтар таксама ўказаў на змену стаўлення мясцовага селяніна пад уплывам Кастрычніцкай рэвалюцыі. Адносна дзейнасці польскіх партый; знаходзім у працы абшырны аналіз дзейнасці Польскага Народнага саюза «Адраджэння», а таксама шэрагу іншых федэратыўных (антыэндэцкіх) арганізацый. «Адраджэнне» дзейнічала не толькі сярод польскага насельніцтва, але і беларускага і мела на мэце прывязанне апошняга да Польшчы. Між іншым успамінае аўтар таксама аб дзейнасці беларускай арганізацыі — БСГ. У працы Б. Дымка знаходзім найважнейшыя дадзеныя аб масавай дзейнсці «Адраджэння», а асабліва аб ходзе двух масавых сялянскіх з'ездаў у Вільні ў 1919 і 1921 гадах. Аўтар паказвае таксама на крыніцы эвалюцыі ідэйнай часткі яе членаў пад уплывам двух фактараў: з аднаго боку пад націскам сялян, якія патрабавалі рэалізацыі радыкальных лозунгаў, якія высоўвалі іх правадыры, а з другога боку пад уплывам узрастаючай свядомасці аб немагчымасці зрабіць таго ў тагачасных грамадска-палітычных умовах. Такім чынам утварылася ў «Адраджэнні», якое арганізавалі пілсудчыкі абапіраючыся на дапамогу II Аддзела Генеральнага Штаба — левая сялянская апазіцыя званая «левіцаю людовай». Аўтар мяркуе, што гэтая апазіцыя ўтварылася таксама пад камуністычнымі ўплывамі, таму што падтрымліваў яе тыднёвік «Паходня», які выдаваўся Цэнтральным Бюро прафесіянальных саюзаў у Вільні. Прагнозы аўтара з'яўляюцца хіба якнайбольш трапны. Бо «Паходня» была газетай віленскай камуністычнай арганізацыі. Яе фактычным рэдактарам быў вядомы камуністычны дзеяч — Вінцэнты Міцкевіч — Капсукас, а ўплыў камуністаў у Цэнтральным Бюро прафсаюзаў быў вялікі, аб чым сведчыць сам факт выдання камуністычнай газеты прафсаюзнымі ўладамі, у якіх былі таксама і члены ППС.

З далейшага зместу артыкула бачым, як праходзіла дзейнасць і якія адбываліся працэсы ў «Адраджэнні» пасля яго прыступлення да ПСЛь «Вызваленне» і тут немалаважная рыса: гэтае прыступ-

 

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ГІСТОРЫЯ ДЗЕВЯЦІ ГОД

У Паўднёвым В'етнаме партызанскія вызваленчыя сілы ўзніклі ў ваколіцы 1959 года, у часы ўладарніцтва крывавага імператара Дыема. Пачаткова не мелі яны выразнай ідэалогіі ані кіруючай цэнтралі. Сілы тэтыя з'яўляліся толькі праявай самааховы ва ўмовах дзікага ўціску і рэпрэсій. Фармаванне руху супраціўлення адбылося ў 1960 годзе. 20 снежня таго года пачалася арганізацыя Фронту нацыянальнага вызвалення Паўднёвага В'етнама для барацьбы супроць рэжыму Дыема. Апавешчана адпаведны маніфест.

Амерыка прэзідэнта Кенедзі выступіла ў падтрымку сайгонскага рэжыму, высылаючы першых 20 тысяч салдат. Разгаралася вялікая партызанская вайна, але ў той час, мабыць, мала хто спадзяваўся, што ў будучыні гэта вайна расшырыцца амаль на ўвесь В'етнам, ва ўсе закуткі в'етнамскай зямлі. 20 ліпеня 1962 года Нацыянальны фронт вызвалення Паўднёвага В'етнама аб'явіў першую поўную праграму, у якой дамагаўся спынення амерыканскага мілітарнага і палітычнага ўмяшання ў в'етнамскія справы, захавання міру, утварэння нацыянальнага ўрада ў складзе прадстаўнікоў усіх партый, сектаў, груповак, які падрыхтаваў бы вольныя выбары ў Нацыянальны Сход Паўднёвага В'етнама. У гэтай праграме моцна падкрэслена патрэбу мірнай і нейтральнай замежнай палітыкі Паўднёвага В'етнама, наладжанне сувязей дружбы і супрацоўніцтва з усімі краінамі, асабліва, з суседнімі краінамі.

Калі 1 лістапада 1963 года ваенная хунта звяргнула рэжым Дыема, а сам ён быў забіты, Нацыянальны фронт выказаў свой намер палітычнай развязкі канфлікта, прапануючы сустрэчу дзеля абмеркавання прапановы аб перамір'і, вырашэння найбольш надзённых праблемаў і падрыхтоўкі вольных выбараў, якія стварылі б падставы дэмакратыі і ладу. Магчыма, што некаторыя з хунты былі схільнымі да такіх перагавораў і, магчыма, таму гэта хунта пратрымалася ўсяго каля трох месяцаў? Замяніла яе новая хунта, цалкам паслухмяная амерыканцам і іх вайсковаму камандаванню ў Паўднёвым В'етнаме.

Хаця сайгонскае кіраўніцтва было дарэшты пад уплывамі амерыканцаў, аднак амерыканцам не ўдалося на працягу цэлага 1964 года ў нічым перашкодзіць пашырэнню ўплываў і арганізацыйнаму ўмацаванню Фронту нацыянальнага вызвалення Паўднёвага В'етнама. Тады было вырашана пачаць славутую эскалацыю ваенных дзеянняў у Паўднёвым В'етнаме і пачаць бамбардзіроўкі Паўночнага В'етнама (ДРВ).

Кіраўнікі Нацыянальнага фронту вызвалення Паўднёвага В'етнама доўгі час былі невядомымі. У 1966 годзе Нацыянальны фронт апублікаваў прозвішчы і фатаграфіі 44 сваіх галоўных асабістасцей. Гэта, бадай, беспрэцэдэнтная ініцыятыва ў гісторыі ўсіх партызанскіх рухаў на зямной кулі ва ўсіх часах. Цяжка назваць які-небудзь партызанскі рух, які б публікаваў прозвішчы і фатаграфіі сваіх кіраўнікоў у абстаноўцы вайны. І так, кіраўніком Цэнтральнага Камітэта Нацыянальнага фронту вызвалення Паўднёвага В'етнама з'яўляецца Нгуен Ху То, сайгонскі адвакат, які далучыўся да партызанскага руху ў 1961 годзе. Адным з шасці яго намеснікаў з'яўляецца Хунь Тан П'ят, вядомы сайгонскі архітэктар; кіраўніком замежнай палітыкі гэтага камітэта з'яўляецца Нгуен Фан Хі, а кіраўніком вайсковых спраў з'яўляецца Тран Нам Трунг, прадстаўнік Народнай Рэвалюцыйнай партыі, узніклай на базе даўняй Камуністычнай партыі Індакітая. У склад кіраўнічых працаўнікоў Цэнтральнага Камітэта ўвайшлі прадстаўнікі розных партый і прагрэсіўных груповак, рэлігійных арганізацый і сектаў, праследуемых сайгонскім рэжымам.


Байцы нацыянальнага фронту вызва лення.

Летам мінулага года, на жнівеньскім з'ездзе, палітычнае кіраўніцтва Нацыянальнага фронту вырашыла інтэнсіўна пашырыць уплывы таксама і сярод гарадскога насельніцтва, што радыкальным чынам змяняе сітуацыю сайгонскага рэжыму, які не меў уплываў у вёсцы і апіраўся амаль выключна на гарадскім элеменце, перш за ўсё, буржуазіі. Нацыянальны фронт ажыццяўляе цяпер надзвычай эластычную палітыку. Раўназначнае гэта з мабілізацыяй усіх класаў і слаёў паўднёвав'етнамскага народа супроць амерыканскай дапамогі, якая выяўляецца перш за ўсё ў мілітарнай ды палітычнай інтэрвенцыі.

Няма падзелу на вёску і горад. Гэта пераломны момант, ад якога пачынаецца новы этап усенароднай барацьбы в'етнамцаў за незалежнасць, мір, дэмакратыю і развіццё. Вайсковыя часці Нацыянальнага фронту налічваюць зараз сотні тысяч салдат і недалёкі той час, калі 14 мільёнаў в'етнамцаў Паўднёвага В'етнама даб'ецца свабоды і незалежнасці. (ся)

## Дары прыроды — медыцыне

**Капуста.** Агароднiна адыгрывае значную ролю ў харчаванні чалавека. Аднак карысна не толькі сама агародніна, але і яе сокі. Яшчэ ў старажытнай медыцыне сокі агародніны мелі і лекавае значэнне. Рымляне прыпісвалі капусце асаблівасць ахоўваць ад заражэння хваробамі, вылечваць ад ран. Яны сцвярджалі, што «з усёй агародніны — першая яна злучае ў сабе ўласцівасці, якія найбольш садзейнічаюць здароўю

Асабліва вялікую колькасць вітаміну С, бялку, калію, кальцыю, магнію, фосфару ўтрымлівае ў сабе чырвонакачанная капуста. Наяўнасць вялікай колькасці кальцыю ў ёй узмацняе вывядзенне з арганізму вадкасці і солей натрыю, а наяўнасць у капусным соку вітаміны V дае магчымасць шырока ўжываць яго пры лячэнні язвавай хваробы 12-перснай кішкі.

## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ


**Значная доля даходаў сельгасарцелі «Рассвет», Кіраўскага раёна, Магілёўскай вобласці ідзе на будаўніцтва калгаснага Палаца культуры, жыллёвых дамоў, бытавых устаноў, школ, на ўпарадкаванне дарог.**

**На здымку: будаўніцтва ў калгасе дарогі з цвёрдым пакрыццём.**

## ДЗЯЎЧАТЫ І ХЛОПЦЫ

У Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы праведзена цікавы дослед адносна развіцця дзяўчат і хлопцаў. Даследвана моладзь ва ўзросце 10—13—16 і 20 год. Паводле сабранага матэрыялу вынікае, што 13-цігодак больш капрызны, грубіянскі і некрытычны, але больш здольны да ўнутранай самакрытыкі, больш ганаровы, у параўнанні да 10-тодка, які патрапіць наогул згодна жыць у сям'і.

16-цігодкі яшчэ менш здольныя да спачування другім людзям, імкнуцца да моцных уражанняў. Затое 20-цігодкі пачынаюць праяўляць ураўнаважанасць, працавітасць, крытыцызм у дачыненні да сваёй асобы, робяцца больш чалавечымі, натуральнымі, імкнуцца да згоднага жыцця ў сям'і. Спачуваюць другім людзям.

Сцверджана, што 13-цігадовы хлопец больш здольны да аб'ектыўнай ацэнкі, чым 16-цігадовая дзяўчына. У здольнасці да аб'ектыўнага погляду на справу пастаўлена нараўні 16-цігадовага хлопца з 20-цігадовай дзяўчынай. **Дзяўчаты ў сваіх поглядах і ацэнках кіруюцца больш пачуццямі, а хлопцы розумам.**

20-цігадовая дзяўчына ў сваёй здольнасці да крытыкі сваіх учынкаў, а таксама і чужых учынкаў, не дараўноўвае нават 16-цігадоваму хлопцу. (ся)




Пара адпраўляцца. Карцаў бясшумна лягае на ваду. Яму здаецца, што ён у цёплай ванне. Так, толькі цяпер ён пачуў, прамёрз у падзямеллі.

Ён плыве наўпрасткі, трымаючы да ледзь прыкметнай плямы на тым баку лагуны.

Пляма святла набліжаецца. Цяпер можна адрозніць кантур пляцоўкі. Аднак неўзабаве Карцаў зноў трапляе ў змрок: відавочна, ён упрытык падплыў да пляцоўкі, рабро скалы засланіла дзірку тунеля і святло, што ішло адтуль.

Ён не памыліўся: яшчэ крыху — і пальцы выцягнутай рукі дакрануліся да вялікага металічнага ўбітага ў шчыліну кастыля з кальцом, ад якога наўскасяк пад ваду цягнецца сталёвы трос. Навошта ён тут? Трымае нешта на дне? Не, трос працягнуты паката. Відаць, гэта арыенцір для тых, каму трэба выбрацца з лагуны на свабодную ваду. Ды Карцаву не да троса. Ён шукае трапа.

Урэшце ёсць і трап. Трымаючыся за круглую металічную ступеньку, Карцаў адвязвае прывязаны да трусоў нож і памалу падымаецца з вады.

Вось і пляцоўка. Яна ў слабым святле, якое ідзе з глыбіні тунеля. Злева — тарпеды на стэлажах; на паліцах нейкая маёмасць.

Яшчэ дзве ступенькі. Цяпер ён па пояс над пляцоўкай. Вугал бачання змяніўся, і ён бачыць... бачок!

Нельга спяшацца: мокрыя ногі пакінуць сляды, і калі нехта з'явіцца... Карцаў далонямі расцірае падэшвы. Здаецца, вечнасць мінула, перш чым яны прасохлі і можна ступіць на пляцоўку.

Ён каля бачка, бярэцца за кран, падстаўляе губы —атрымлівае ўдар у гартань. Удар, суправаджаемы шыпеннем і трэскам. Не адразу скеміш, што гэта газіравана вада.

Кран закрунуты. Карцаў прыслухоўваецца. Ціха. Тады ён зноў асцярожна адкручвае кран і з асалодай п'е найцудаўнейшы з напіткаў — прэсную ваду.

П'е, захлістаецца, робіць перапынкі, прыслухоўваецца, зноў падстаўляе рот пад струменьчык вады. Здаецца, што напіўся, але праходзіць мінута, смага вяртаецца і ён прыліпае губамі да крана...

Урэшце прымушае сябе павярнуцца да бачка спіною. Перад вачыма — тарпеды. Але яны без узрывацеляў. Дзе ж узрывацелі? Яму патрэбны хоць адзін. Пры ўзрыве адной тарпеды дэтануюць апошнія, і тады выляціць у паветра ўсё гэта пякельнае падзямелле.

У пошуках узрывацеля ён абшуквае пляцоўку. Дарма. Ёсць тарпеды, ласты, нават падводныя буксіроўшчыкі. Усё гэта ляжыць без аховы. І ніводнага ўзрывацеля ці дыхальнага апарата.

Каля ўваходу ў тунель замок. Дзверы ў новае памяшканне? Але яны замалыя. Ці гэта не сейф, дзе ляжаць узрывацелі?

Непадалёку ад стэлажа з ластамі новае ўглыбленне ў сцяне. Ого, яшчэ стэлаж! Тут вісяць гумовыя касцюмы, а ўнізе складзены глыбінямеры і падводныя компасы, тадзіннікі і ліхтары ў непрапушчальных для вады футлярах. Словам, на пляцоўцы ўсё, што можа спатрэбіцца лёгкаму вадалазу. Не хапае дыхальных апаратаў і ўзрывацеляў. А без іх усё гэта не варта і траша.

Крокі! Кінуўшыся за тарпеды, Карцаў замірае.

З тунеля выходзіць чалавек. Ён зусім голы. Накіроўваецца да края пляцоўкі. Вось ён наблізіўся да трапа...

— Зыгфрыд!

Гэта крыкнула жанчына — тая, якую кранаўшчык называў фроляйн Рышэр Карцаў і не прыкмеціў, як яна з'явілася на пляцоўцы.

— Стаяць, Зыгфрыд! — камандуе Рышэр.

Яна бяжыць назад, уключае пражэктар і вяртаецца. На баку ў яе ўжо знаёмая Карцаву торба, а ў руках — партатыўная кінакамера. Нацэліўшы аб'ектыў на голага, Рышэр націскае на спуск.

Рышэр то адступае, то набліжаецца да чалавека, заходзіць збоку, са спіны, здымаючы яго з розных ракурсаў.

Спярша мужчына стаіць непарушна. Але вось ён пачынае непакоіцца: азіраецца, сціскае кулакі, пераступае з нагі на нагу, нешта мармыча. Уздыхнуўшы, ён нерашуча ідзе да вады.

— Назад! — камандуе Рышэр, працягваючы здымаць. — Назад, Зыгфрыд, дамоў! Хутчэй ідзі спаць!

Чалавек паслухмяна паварочваецца і тупае да тунеля. Жанчына працягвае яму руку, у якой заціснуты нейкі прадмет.

— Узяць!

Голы спыняецца. Рышэр падыходзіць да яго. Карцаў чуе трэск разрыванай паперы, хруст, чаўканне.

— Добра, — гаворыць Рышэр. — А цяпер — спаць.

Чалавек знікае ў тунелі.

Рышэр закрывае рукамі твар. Яна плача!

А затым здараецца нешта зусім ужо дзіўнае. Раптам яна ідзе да вады, за-



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## СТАРЫ ЧАЛАВЕК

У маёй вёсцы Кнаразы, у старой маленькай хатцы жыве, а хутчэй дажывае свой век, вельмі стары, бо мае больш як 90 год, Дзмітры Федарук. Цяжкі лёс спаткаў гэтага чалавека. Гаспадарку сваю ён перадаў натарыяльна за дажывоцце селяніну Афанасію Крышпінюку. Я таксама стары чалавек, бо жыву ўжо 82 год. Зайшоў да свайго аднавяскоўца, каб праведаць, як жыве гэты мой таварыш.

І што ж аказалася? Забарыкадаваўся ён ад марозу, холаду і ад людзей у сваім пакоі размерам можа 2x3 метры. Ёсць тут жалезнае ложка без ніякага пасланння. Ёсць стары куфар, маленькі столік, на якім стаяць дваякі са стравою, якую прыносяць яму адзін раз у суткі. Спіць на хлебнай печы. Няма ніводнага крэсла. Няма ніякай міскі, мыла, ручніка ці хустачкі да носа. Можна думаць, што гэты чалавек ніколі не мыецца, не голіцца, не стрыжэ валос. Колькі я жыву, то ніколі і нідзе не бачыў, каб чалавек дажываў свой век у такіх нялюдскіх умовах, тым больш, што ён яшчэ і цяпер мае блізкіх сваякоў, якія павінны заапекавацца ім, можа дзівачным, але абяздоленым чалавекам. Ён не мае ў што апрануцца ці абуцца, таму ён ніколі не выходзіць на вуліцу і не бачыць людзей. А яшчэ горш, што людзі не бачаць і не хочуць бачыць яго. Думаецца, што ён будзе жыць яшчэ 100 год, бо сама смерць не набярэцца смеласці, каб заглянуць да яго старэнькай напаўразваленайцплкх і зрабіць свой абавязак.

Мне здаецца, што грамадская рада нарадовая ў Храбалах і ўсе аднавяскоўцы павінны заапекавацца гэтым чалавекам.

**Нестар Перавой**
Тэрэновы грамадскі апякун
Бельск Падляшскі

## 6 і 7 КЛАСЫ

У вёсцы Гвозна, Беластоцкага павета, ад 1941 года не было школы, таму ў гэтай вёсцы многа людзей ва ўзросце 20—50 год, якія не маюць закончанай пачатковай школы. Каб закончыць пачатковую школу, арганізавана там курс агульнаадукацыйны з праграмай 6-га класа, на якім вучылася 31 асоба. 8 красавіка закончыліся там экзамены і ўжо 9.IV. пачаліся заняткі на курсе 7-га класа. Прысутнічае з гэтае вёскі і паблізкіх каленій 34 асобы. Што ж кажуць людзі? Калі б далей трэба было хадзіць, то хто бы там хадзіў, але на месцы — трэба карыстаць. Курс вядуць настаўнікі з суседняй школы.

**М. Краўчук**
Патока

## ВЕТЭРЫНАРНАЯ СЛУЖБА

Ветэрынарная лячэбніца ў Орлі праводзіць зараз масавую акцыю кастрацыі «дзікіх» быкоў. Гэтыя аперацыі найбольш праводзіць тэхнік ветэрынарыі Генрык Пароўскі. І так, ён у Парцаве «ачысціў» 22 бычкі, а ў Крывой — 18, у Шчытах — 12. Справа ў тым, што такія «дзікія» быкі занечышчаюць нядрэнную расу быдла ў гэтым раёне.

(мх)

---

пускае рукі ў сваю торбу і выкідвае яе змесціва ў лагуну.

З гэтай торбы Рышэр даставала ежу, якою карміла плыўцоў. Цяпер Карцаў разгледзеў, што гэта — брыкеты, запакаваныя ў паперу. З выгляду падобны на галандскі шакалад.

Падумаць толькі, пліткі шакаладу плываюць зусім побач!

Між тым Рышэр вяртаецца. Непадалёку ад уваходу ў тунель яна хавае кінакамеру. Менавіта хавае: апускае ў шчыліну і завальвае дзірку каменем.

Потым яна гасіць пражэктар і скрываецца.

Вычакаўшы, Карцаў крадзецца да трапа. Ля абрыву скалы заваліліся ў шчыліну два брыкеты. Ён хапае іх, разрывае ўпакоўку. Не, гэта не шакалад. На далоні брусок лёгкай жаўтаватай рэчы, ад якой ідзе тонкі арамат фруктаў.

Пакаштаваць?

Раптам ён прыпамінае непарушныя твары плыўцоў, іх пустыя, мёртвыя вочы. І асабліва ясна ён бачыць чалавека, які толькі што скрыўся ў тунелі. Рышэр карміла яго такімі брыкетамі, яна была так настойліва... Тыя, што буксавалі цыліндры і мяшкі, таксама атрымлівалі з яе рук гэту ежу.

Кінуўшы ў ваду жоўты брыкет, Карцаў доўга трэ пальцы аб камень.

**(Працяг будзе)**

## КОНКУРС

7 красавіка ў Дубічах Царкоўных у зале святліцы адбылося заканчэнне чытальніцкага жаночага конкурсу.

Конкурс быў прысвечаны распаўсюджванню чытання «фаховых» кніжак.

Кожная з удзельніц расказала коратка змест прачытанай кніжкі і адказала на пытанні камісіі, якая ў асобах: Валя Хіліманюк — светліцовая, Ніна Панфілюк — настаўніца і Марыя Белявец прызнала рэчавыя ўзнагароды ўдзельніцам. Узнагароды атрымалі: Ніна Чыквін, Анна Панфілюк і Вера Млодзян.

**М. Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## НЯДБАЙНАСЦЬ СПІЧКОЎЦАЎ

Недалёка за Бельскам Падляшскім ёсць вёска Спічкі. Цяжка да яе даехаць вясною і восенню. Нават летам пасля дажджу няма магчымасці праехаць. Толькі зімою, як мала снегу, можна завітаць у Спічкі. Гэта нядбайнасць спічкоўцаў. Дарогу можна наладзіць грамадскім чынам. Хопіць адзін дзень працы. І дарога будзе сухая. Але спічкоўцы не могуць знайсці аднаго вольнага дня. А мо спадзяюцца, што дарога сама наладзіцца?

І другі факт сведчыць аб нядбайнасці спічкоўцаў. У вёсцы ёсць святліца. Будынак невялічкі, прыемны. Толькі непрыемна туды зайсці. Сцены чорныя. Поўна павуціння. Па падлозе валяецца смецце. Няма каму нават прыбраць пасля забавы. Мала калі хто тут заходзіць. Толькі вечарамі, праз вокны, сцішка (святліца заўсёды закрытая, ключы ў солтыса) улазяць хлопцы-карцёжнікі. Іграюць у карты. У Спічках ёсць Саюз вясковай моладзі і каманда пажарнай стражы. Ні адна, ні другая арганізацыя не клапоцяцца пра сваю святліцу. Вялікі сорам спічкоўскай моладзі. Такі будынак не выкарыстаць! А мо дзядулі і бабулькі зробяць парадак у святліцы? Яны найбольш маюць вольных хвілін. Бо моладзь гаворыць, што не хапае часу. А мне здаецца, што гэта нармальная нядбайнасць.

Мацейка




**Дарагое Сэрцайка!**

Працавала я на вёсцы далёка ад свайго дому і там пазнаёмілася з Янкам. Мы пакахалі адзін аднаго. Янка прыходзіў да мяне штовечар і абяцаў мне, што ажэніцца са мною. Усё дапытваўся, ці я за яго выйду замуж і ці дазволяць на гэта мае бацькі. Мінула год, як я атрымала з хаты пісьмо, што мама мая цяжка захварэла і бацька прасіў, каб я перанеслася працаваць у сваю вёску. Цяжка нам было растацца з Янкам. Ён адвёў мяне да поезда і амаль не плакаў, што не зможа пабачыцца са мной штовечар, як было раней. Праз тыдзень Янка прыехаў да мяне. Потым пісаў вельмі часта лісты і абяцаў ізноў прыехаць. Аднак мінае ўжо чацвёрты месяц, як Янка нічога да мяне не піша і больш не прыехаў. Не ведаю, па якой прычыне. Я кахаю Янку, не магу паверыць у тое, што Янка мне хлусіў. Парай, што рабіць?

Іра
Гайнаўшчына

**Дарагая Іра!**

Калі праз чатыры месяцы Янка нічога да цябе не напісаў і не прыехаў, напэўна мусіць быць якаясьці сур'ёзная прычына. Мо пераканаўся, што цябе не кахае, а мо іншая вельмі важная прычына, якіх бывае вельмі многа. Таму раю табе, Іра, напісаць да яго пісьмо і прасіць, каб Янка напісаў табе, што здарылася, чаму не піша. Аднак пісьмо гэтае хай будзе ветлівае, не ўпікай Янку, бо ж не ведаеш прычыны яго маўчання. Калі акажацца, што Янка ўвогуле не адпіша, дык гэта ўжо будзе табе зразумелым і хоць цяжка, аднак мусіш забыць пра яго. У такім выпадку мо і не яго віна, мо тады, калі ён быў з табой, здавалася, што ён кахае цябе, а пасля твайго выезду аказалася, што не сумуе за табою. Таму ж і гаворыцца, што найлепшай праверкай у каханні — разлука на нейкі час.

Жадаю ўсяго найлепшага
**Сэрцайка**

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ПАРП

Нядаўна ў Клейніках адбылася грамадская канферэнцыя ПАРП. На ёй была прынята праграма дзейнасці партыйнай арганізацыі ў гэтай грамадзе. Выкананне гэтай праграмы будзе далейшым крокам у напрамку развіцця паасобных вёсак. Апрача пільных задач ідэалагічнага характару ёсць таксама шмат нявырашаных гаспадарчых спраў. Грамадскі камітэт ПАРП будзе разбудоўваць сваю арганізацыю, будзе намагацца, каб мець яшчэ большы выхаваўчы ўплыў на сваё асяроддзе.

Запланавана, што ў Клейніках і Вялікіх Тынявічах будзе праводзіцца партыйная адукацыя, у Гукавічах і Гарадоччыне будуць сталыя лектарскія пункты, а ў Козліках будуць чытаць лекцыі актывісты Фронту адзінства народа.

Канферэнцыя асабліва многа ўвагі прысвяціла сельскай гаспадарцы. Грамадскі камітэт партыі займецца такімі праблемамі, як выкарыстанне ўсіх сельскагаспадарчых рэзерваў, узростам ураджаю сельскагаспадарчых культур, загаспадараваннем зямельных угоддзяў з дзяржаўнага фонду зямлі і г.д. У наступным годзе будзе праведзена селекцыя быдла і будуць арганізавацца паказы рацыянальнага кармлення кароў.

Будуць таксама хутка рамантавацца дарогі Радзькі—Істок, Клейнікі—Гукавічы, Клейнікі—Гарадоччына, Клейнікі—Сапава, Клейнікі—Слівова, Клейнікі—Градочна.

Партыйная арганізацыя грамады Клейнікі будзе таксама намагацца, каб як найхутчэй была пабудавана школа ў Вялікіх Тынявічах і стражацкія рамізы ў: Клейніках, Вялікіх Тынявічах і Градочнай.

**Аляксандр Закройшчык**
Клейнікі

## АРАТЫ



Фота: Янка Цялушэцкі

## «АДЗІН У ПОЛІ НЕ ВАЯКА», АДНАК...

Нарадзіўся я ў Орлі. Усё, што звязана з падзеямі ў Орлі, яе сённяшняе жыццё і яе будучыня, мяне вельмі цікавяць. З прыемнасцю чытаю артыкулы, якія гавораць аб усім добрым, што робіцца ў Орлі і чытаю артыкулы, якія паказваюць недахопы. Замешчаны ў № 8 «Нівы» ад 25 лютага 1968 г. артыкул Уладзіміра Паўлючука «Адзін у полі не ваяка» паказвае праўдзівую сучаснасць, якая існуе ў Орлі. Адзін у полі не ваяка, аднак можа зрабіць вельмі многа. Жыву і працую я ў іншым павеце. Культуральнае жыццё нашай вёскі шырока вядомае не толькі ў нашым павеце. Існуе ў нас гурток ЗМВ і БГКТ. Сарганізавана артыстычны аматарскі калектыў, які ў сваёй праграме мае п'есы, песні, гумар, сатыру, апрацоўваецца танец. Праз тры гады, колькі ўжо працую тут, калектыў наш даў каля 100 выступленняў у сваёй і іншых вёсках. Апрацавалі мы 14 п'ес, пераважна беларускіх. Скажу вам, што выступаць на сходах — гэта яшчэ мала, найважнейшае — гэта здабыць пашану, папулярнасць у моладзі і паказаць ёй, што патрапіце штосьці зрабіць, зацікавіць моладзь. Калі здабудзем хоць некалькі чалавек, тады ўсё пойдзе проста, культурнае жыццё Орлі рушыць. Я думаю, што пры шчырых жаданнях усё гэта можна зрабіць, тым больш, што ў Орлі ёсць каму. Некалькі настаўнікаў, выхавацельніца з дзіцячага саду, светліцовая і іншыя. А ўладам Орлі сорамна, што наракаюць, што няма грошай на тэлевізар ці рамонт святліцы. У Орлі ёсць ГРН, ГС, якія маюць вялікія даходы, кафлярня, цагельня, банк ральнічы і іншыя прадпрыемствы. Кожная з гэтых устаноў у сваім бюджэце мае грошы на культурную дзейнасць. Ці ж не можна выкупіць напраўленага тэлевізара, уставіць вокны ў святліцы ці паправіць печы? Можна не толькі гэта. Можна зрабіць многа больш. Толькі трэба, каб усе начальнікі сабраліся і супольна перагаварылі, як рушыць з месца, і заўвагі свае не толькі запісалі ў блакноты і пратаколы, але мелі ў галаве на штодзень і іх рэалізавалі. Тады пачуем аб Орлі вельмі многа добрага, і яшчэ шырэй стане Орля вядомая са свайго культурнага жыцця, як была вядомай некалькі год таму назад. І таго са шчырай душы жадаю.

**Зямляк**

# КІНО

### БЕЛАСТОК

**БГКТ**: «Памяць сэрца» — 28.IV.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
,,Rondo'' (jugosł.), 30.IV. — 1.V. ,,Ja twój syn'' (czeski), 2—3.V. ,,Skąpani w ogniu'' (polski), 4—5.

**Дубіны**
,,Na tropie szpiega'' (radz.), ,,Po kruchym lodzie'' (USA), 4—5.

**Нараўка**
,,Grek Zorba'' (USA), ,,Jej siedem wieczorów'' (czeski), 1—5.

**Нарва**
,,Gdzie jesteś Maksymie'' (radz.), ,,Królowa stacji benzynowej''. (radziecki), 1—5.

**Чыжы**
,,Fifi piórko'' (franc.), ,,Na pokładzie stanął kapitan'' (radz.), 1—5.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Kochankowie z Marony'' (polski), ,,Znowu Max Linder'' (franc.), 30.IV.—5.V.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Teresa Desqueraux'' (franc.), ,,Porucznik jazdy'' (radz.), 30.IV.—5.V.

**Орля**
,,Kamo znany osobiście'' (radz.), 30.IV.—5.V.

**Райск**
,,Gdzie jesteś Maksymie'' (radz.), ,,Królowa stacji benzynowej'' (radziecki), 30.IV.—5.V.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Zaufaj mi Anno'' (bułg.), ,,Skąpani w ogniu'' (polski), 30.IV.—3.V.

**Міхалова**
,,Trahumara'' (meksykański) 30.IV.—1.V. ,,Człowiek, który zabił Liberta Valencea'' (USA), 2—3. ,,Wątła nić'' (USA), 4—5.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Kto zdobędzie puchar'' (angl.), 30.IV.—1.V. ,,Człowiek bez paszportu'' (radz.), 2—3. ,,Nikt nie chciał umierać'' (radz.), 4—5.

**Шудзялава**
,,Gwiazdy w morzu'' (radz.), ,,Męski piknik'' (jugosł.), 1—5.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Kopciuszek w potrzasku'' (franc.), ,,Mętna woda'' (węgierski), 30.IV.—5.V.

**Новы Двор**
,,Gorzkie dno rzeki'' (jugosł.), ,,Lenin w Polsce'' (polski), 4—5.

**Ліпск**
,,Królowa stacji benzynowej'' (radziecki), ,,Listek figowy'' (węgierski), 4—5.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 7276

